Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№ 50 (1079) 10 снежня 2020 года.
Кошт свабодны.

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by
vglybokaye.by



ISSN 2077-8023





У судзе Пастаўскага раёна.



**На здымку: жыхар Паставаў Аляксей Казлоўскі** (крайні справа) **7 снежня быў прысуджаны судом Пастаўскага раёна да 80 базавых велічынь штрафу, што складае 2160 рублёў, па артыкуле 341 Крымінальнага Кодэкса за надпісы на аўтобусным прыпынку «3%» і «Саша, ты уволен», а таксама за малюнак бел-чырвона-белага сцяга. Справу разглядала суддзя Наталля Жукава. Падтрымаць Аляксея прыйшло шмат людзей, прыехалі і з Глыбокага. Аднак суддзя, для захавання дыстацыі, дазволіла заняць месцы па два чалавекі на лаўцы.** *Фота Змітра Лупача.*

## За суткі ў Беларусі зарэгістраваны 1796 пацыентаў з COVID-19, выпісаны 1310

**За суткі ў Беларусі зарэгістраваны 1796 пацыентаў з COVID-19, выпісаны 1310. Аб гэтым БелТА 7 снежня паведамілі ў прэс-службе Міністэрства аховы здароўя.**

Усяго з пачатку пандэміі ў Беларусі зарэгістраваны 148 953 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Выздаравелі 126 084 пацыенты, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памерлі 1215 пацыентаў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.

За мінулыя суткі выканана 18 574 тэсты. Усяго ў краіне праведзена 3 449 089 тэстаў.

*БелТА.*

## Бяспечны Новы год!




**7 снежня выратавальнікамі дадзены старт рэспубліканскай прафілактычнай акцыі «Бяспечны Новы год!».**

Менавіта пераднавагодні перыяд суправаджаецца рэзкім павелічэннем колькасці пажараў і траўмаў у выніку парушэння правіл пажарнай бяспекі пры падрыхтоўцы да святаў, неасцярожнага звароту з піратэхнічнымі вырабамі. Папярэдзіць надзвычайныя сітуацыі з падобнымі наступствамі - мэта рэспубліканскай акцыі «Бяспечны Новы год!», якая пройдзе да 31 снежня.

Падчас акцыі выратавальнікі наведаюць тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, школы і дзіцячыя сады, месцы продажу піратэхнічных вырабаў. Гэтак жа, мерапрыемствы пройдуць і ў анлайн-фармаце з дапамогай Інтэрнэт-месэнджараў Skype, Viber, WhatsApp.

Дзед Мароз-выратавальнік і Снягурка не толькі нагадаюць усім правілы бяспекі, але і правядуць тэматычныя віктарыны, конкурсы і латарэі.

*Глыбоцкі РАНС*





## Расонскі раён

# Святар стаў “ворагам”

■ Чэслаў Якубовіч.

**Чатыры месяцы не сціхаюць у Беларусі масавыя акцыі пратэсту розных “дэструктыўных сіл”.**

Да “ворагаў” рэжыму сталі адносіць усіх, хто не баіцца выказваць адкрыта сваю грамадзянскую пазіцыю, а лік затрыманых тым часам наблізіўся да 32 тысяч. Да такіх вось “нядобранадзейных” яшчэ летась аднеслі ксяндза-пробашча парафіі св. Я. Кунцэвіча з Расон Вячаслава Барка. Гэтага святара ў мінулым годзе каралі тройчы штрафамі за тое, што перастараўся пры засыпцы балота побач з новым узведзеным касцёлам, дзе Богаслужэнні пачаліся быццам з парушэннямі існуючых правіл эксплуатацыі будынкаў ды пры яшчэ адсутнасці пажарнай сігналізацыі. Аднак у лукашыстаў найбольшую злобу выклікае той факт, што гэты беларускі ксёндз вядзе і свой Ютуб-канал. На ім ён прама і чэсна расказвае аб тым, што злога і недарэчнага робіцца ў краіне, дзе пачалі ўсталёўвацца фашысцкія парадкі. Пра палітыку ён гаворыць у рамках хрысціянскага вучэння і афіцыйнай пазіцыі каталіцкага касцёла ў Беларусі, кіраўніка якой зрабілі арцыбіскупам у выгнанні. За гэта пробашча спачатку выклікалі ў Следчы камітэт, дзе прымусілі даць пісьмовыя тлумачэнні. На гэтым сілавікі не спыніліся і праз пару тыдняў святара выклікалі ўжо ў райаддзел міліцыі ў рамках распачатага адміністрацыйнага працэсу да старшага оперупаўнаважанага, капітана Р. Гаўрылава. Выслаць з краіны, як іншых замежных святароў-каталікоў, Вячаслава не могуць, бо ён беларускі грамадзянін. А вось пасадзіць за краты, распачаць крымінальную справу супраць любога чалавека, на жаль, становіцца ў нас ужо жудаснай рэчаіснасцю.

## Пастаўскі раён

# Свята ў малышоў

■ Кастусь Александровіч

**Адыходзячы год для беларусаў з-за каранавіруса і ўзнікшага сацыяльна-палітычнага крызісу стаў адным з самых цяжкіх у навейшай гісторыі.**

Аднак на такім вось змрочным фоне ў людзей бываюць і светлыя моманты. Вось і ў Паставах рыхтуюцца да адкрыцця новага прыгожага дзіцячага садка на 94 месцы з басейнам. У райцэнтры ён будзе шостым па ліку і вырашыць праблему з дашкольнай установай у буйным мікрараёне вуліцы Зялёнай у заходняй частцы горада. Там апошнім часам пабудвалі пяць шматпавярховак, засялілася немалая колькасць шматдзетных сем’яў. Жыхароў парадавала сёлета адкрыццё буйнога гандлёвага цэнтра гандлёвай сеткі “Санта”, а спецыялісты мясцовай бударганізацыі “Рассвет Пастаўскі” за кароткі тэрмін узвялі прыгожы трохпавярховы казачны домік. Ужо летам яго гатоўнасць складала 70%, а ў пачатку снежня ўнутры памяшканняў завяршылі аддзелачныя работы. На садзік выдзелілі з раённага бюджэту амаль 6 млн. рублёў. Адначасова зборшчыкі мэблі таксама мясцовага прадпрыемства “Паставымэбля” прыступілі да мантажу сваіх, выробленых па заказе, рознакаляровых дзіцячых ложкаў, гульнявых модуляў, сталоў, крэслаў і офіснай мэблі. Акрамя басейна для малышоў, ужо другога па ліку ў Паставах, іх бацькоў парадуе, што абсталёўваюць яшчэ кабінеты для індывідуальных заняткаў з дзецьмі, гульнявыя пакоі. Тут будуць таксама музычная і спартыўная залы, сучасныя гульнявыя пляцоўкі і на вуліцы. У гэтым маляўнічым месцы побач з возерам неўзабаве з’явяцца яшчэ некалькі шматкватэрных жылых дамоў. З задавальненнем узводзяць сабе жыллё і індывідуальныя забудоўшчыкі.

## Віцебскі раён

# Адна радасць – манеж

■ Станіслаў Раманчук.

**Другі год запар галоўная футбольная каманда вобласці, ФК “Віцебск” праводзіць не вельмі ўдалы сезон. Праўда, сёлета ёй не прыходзілася, як летась, вырашаць задачу захаваць прапіску ў элітным дывізіёне.**

У заключным матчы чэмпіянату дома віцябляне гулялі на перамогу з тарпедаўцамі Жодзіна і каб яе дабіліся, то фінішавалі б на 9-м выніковым месцы. Аднак поспеху з лікам 3:2 дабіліся госці і ўпершыню ў гісторыі заваявалі бронзавыя медалі. Нашы землякі ў выніку паказалі толькі 12 вынік у турнірнай табліцы. У той сустрэчы здарыўся прыкры інцыдэнт. Напрыканцы паядынку адзін з бразільскіх легіянераў жодзінцаў чамусьці абазваў “сукай” галоўнага трэнера саперніка Сяргея Ясінскага. За межамі поля ледзь не пачалася бойка, а хуліган быў адразу выдалены. Разлічваць віцяблянам на лепшы вынік было складана з-за абмежаваных фінансавых магчымасцей і па гэтай прычыне сціплага падобру ігракоў. Хоць у Віцебску з камандай працуюць добрыя спецыялісты, лепшыя футбалісты ў абласным цэнтры не затрымоўваюцца, пераходзяць у клубы з больш высокімі заробкамі, бо век прафесійнага спартсмена кароткі. У гэтым годзе парадавала тое, што ў пачатку восені віцебскі клуб займеў сучасны крыты футбольны манеж, дзе зможа рыхтавацца ў халодны перыяд. Нават лепшым айчынным камандам гуляць з віцяблянамі было няпроста, многія страцілі ў шэрагу сустрэч з імі важныя ачкі. Пакуль жа калектыў адправіўся ў доўгачаканы водпуск, а падрыхтоўку да наступнага сезона ў вышэйшай лізе адновіць пасля навагодніх святаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5.ru

| | Чацвер 10.12. 20 | | | | Пятніца 11.12.20 | | | | Субота 12.12.20 | | | | Нядзеля 13.12.20 | | | | Пд.14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -6 | -5 | -4 | -4 | -2 | 0 | +1 | +1 | -1 | -2 | -1 | -2 | -3 | -2 | 0 | 0 | -1 |
| Ціск | 754 | 752 | 750 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 745 | 746 | 746 | 745 | 746 | 746 | 747 |
| Вецер | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У |
| Вільготнасць | 91 | 94 | 87 | 90 | 95 | 99 | 96 | 95 | 92 | 89 | 78 | 77 | 81 | 96 | 86 | 89 | 93 |

# ПАСЛЯ ПРЫВІТАННЯ З КРАМЛЯ ЛУКАШЭНКА АДРАЗУ ЗАГАВАРЫЎ ЗНОЎ АБ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ НА ФОНЕ ЎЗМАЦНЕННЯ ЗАХОДНІХ САНКЦЫЙ

**Напрыканцы каляндарнай восені ў нашай краіне быў зафіксаваны чарговы антырэкорд – звыш 1600 выяўленых хворых каранавірусам за суткі. Калі ў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў перад Калядамі крыху аслабяць каранцінныя меры, то ў нас наадварот сітуацыя з заразай, напэўна, не палепшыцца.**

■ Аляксандр Цішкевіч.

Менавіта перапоўненыя беларускія СІЗА і турмы сталі адным з фактараў росту другой, яшчэ больш інтэнсіўнай, чым у пачатку года, хвалі пандэміі. Верагодна, нарэшце адчуў гэта і нелігетымны нязменны правіцель. Упершыню на публіцы вусатага дзеда ўбачылі ў медыцынскай масцы, хоць было бачна, як не хацелася гэта яму рабіць.

Ён пабываў у 6-й мінскай гарбальніцы, прадэманстраваў, што Covida-19 не баіцца, і нават хворага па спіне пагладзіў. Было заяўлена, што з медыкаў, якія працуюць з інфікаванымі, патрэбных даплат здымаць не будуць, але раней не заўсёды было так. У сваім стылі Лукашэнка пахваліўся, што нібыта ўвесь свет пераканаўся ў правільнасці абранага беларускімі ўладамі курсу па барацьбе з вірусам, з суботнікамі і ваенным парадам. Нарэшце ў той клініцы была зроблена і галоўная заява, адрасаваная найперш суседняй Расіі. Правіцель не толькі анансаваў актывізацыю працы над новай Канстытуцыяй Беларусі, але і запэўніў, што пасля прыняцця абноўленага асноўнага закона ён пакіне сваю пасаду.

Аднак за чвэрць стагоддзя суайчыннікі ўжо пераканаліся, як часта дыктатар змяняе свае пазіцыі. Да многіх яго заяў трэба адносіцца насцярожана і стрымана. Вось і жыхары Баранавіч адрэагавалі на гэта трапным відэазваротам, што “надыходзіць зіма, адляцелі дрозды, не чык-чырыкай дарма, адлятай ужо і ты”. Надаеўшы многім прэзідэнт стаў так выказвацца неўзабаве пасля сваёй сустрэчы з главой расійскага знешнепалітычнага ведамства С. Лаўровым. Госць з Масквы ў адкрытай частцы гутаркі перадаў прывітанне ад Уладзіміра Уладзіміравіча і нагадаў, што трэба мінскаму босу пачаць выконваць дасягнутыя сочынскія дамоўленасці. У той момант тэлекамеры высвецілі нейкі сумны твар нашага ўзурпатара, бо непрыемна гэта чуць і ўсведамляць, што робіцца навокал.

Вось і суседняя Польшча з 1-са снежня яшчэ больш спрасціла для беларусаў умовы працаўладкавання за Бугам без атрымання спецыяльных дазволаў. Новы прэзідэнт ЗША запрасіў на сустрэчу “лахушку”, а на самой справе аднаго з рэальных лідараў народа ў выгнанні С. Ціханоўскую. Суседняя Літва можа пачаць першую крымінальную справу па факце катавання беларуса і цяпер пераследваць грамілаў АМАПа будуць ужо па міжнародным крымінальным праве. Ды і за апошні год ужо 70 тысяч беларусаў атрымалі права на сталае пражыванне і працу ў ЕС, а сімпатыі суайчыннікаў да саюзнай Расіі істотна зменшыліся.

Нарэшце беларуская тэма стала адной з самых абмяркоўваемых сярод міжнародных лідараў і палітыкаў пасля нашых выбараў у жніўні. Да драматычных падзей на беларускай зямлі днямі зноў звярнуліся дэпутаты Еўрапарламенту, правялі вострыя дэбаты і прынялі жорсткую рэзалюцыю з нагоды забойства маладога хлопца Р. Бандарэнкі ў Мінску. Акрамя асуджэння гэтага злачынства парламентацыі кантынента заклікалі беларускія ўлады спыніць насілле і масавыя рэпрэсіі, вызваліць з турмаў усіх палітычных зняволеных. Лічба пад 30 тысяч затрыманых з мая шакіруе ўсю Еўропу, а таксама ЗША і астатні цывілізаваны свет.

Вось чаму ад ЕС чакаюць новых адэкватных мер рэагавання, найперш пачатку міжнароднага расследвання “злачынстваў рэжыму Лукашэнкі”. Еўрапарламент створыць сваю спецыяльную місію па зборы доказаў фактаў парушэнняў у Беларусі правоў чалавека і будзе дабівацца, каб гэтым заняўся юрыдычна адпаведны міжнародны цэнтр. А гэта ўжо пахне служкам рэжыму міжнародным трыбуналам і турмой у Гаазе. Для лукашыстаў бяда, што Еўрасаюз прыме трэці пакет санкцый, які будзе ўключаць айчынныя кампаніі і асобных алігархаў, прыбліжаных да Лукашэнкі. З’явіліся і прапановы аб адключэнні Беларусі ад міжнароднай сістэмы банкаўскіх пераводаў SWIFT. Жорсткія сектаральныя санкцыі таксама неўзабаве могуць прыняць і амерыканцы, а гэта ўжо пахне палёным.

На Захадзе добра разумеюць, што ключ ад вырашэння зацяжнога грамадска-палітычнага крызісу ў нас ляжыць у Крамлі. У Маскве таксама цудоўна ўсведамляюць, што і Расія можа атрымаць дадатковыя санкцыі за падтрымку паліцэйскага рэжыму і самога Лукашэнкі, які трымаецца толькі на дубінках і рэпрэсіях. Гэта ўжо фашызм сапраўдны, калі беларусаў сталі кідаць за краты і судзіць толькі за надпісы на асфальце тыпу “не забудзем” на месцы забойства аднаго з першых дэманстрантаў. Па сутнасці свет назірае ўжо ўнутраны тэрарызм на беларускай зямлі і не будзе з гэтым мірыцца, як і сотні тысяч мужных беларусаў, якія не здаюцца, мяняюць тактыку пратэстных акцый.

Без павагі да свабоды выказванняў і грамадзянскай пазіцыі беларусаў будучага ў нашай краіны проста няма. Усе грамадзяне павінны ўдзельнічаць у прыняцці важнейшых палітычных рашэнняў, а не толькі “ябацькі” і найбольш адданыя прыбліжаныя і генералы. Адметна, што ў хрысціянскім супраціўленні злу пачаў гучаць і голас двух вядучых канфесій – праваслаўнай і каталіцкай. Іх прадстаўнікі адкрыта называюць агрэсіўныя паводзіны сілавікоў “сатанінскімі” і заклікаюць улады пачаць дыялог з беларускім народам.

# У Беларусі павышаюцца тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі і пошты

**У Беларусі павышаюцца тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі і пошты. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю ад 23 лістапада 2020 года №76, якое сёння афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

*«Тарыфы на паслугі электрасувязі агульнага карыстання падвысяцца ў наступных памерах: абаненцкая плата за асноўны тэлефон у месяц для фізічных асоб – у сярэднім на 15 капеек, пачасавая плата за мясцовыя тэлефонныя злучэнні для фізічных асоб – на 0,03 капейкі за хвіліну. Што тычыцца пачасовай платы за міжгародныя тэлефонныя злучэнні для фізічных асоб, тарыфы таксама вырастуць: без дапамогі тэлефаніста – на 0,29 капейкі за хвіліну, з дапамогай тэлефаніста – на 0,43 капейкі за хвіліну»,* – распавялі ў прэс-службе.



Падвысяцца і тарыфы на паслугі паштовай сувязі агульнага карыстання. Перасылка паштовай карткі, ліста або бандэролі масай да 20 г для фізічных асоб падаражэе на шэсць капеек, для юрыдычных асоб і ІП – на пяць капеек.

«Аказанне паслуг тэлефоннай і паштовай сувязі сёння з'яўляецца стратным. Узровень кампенсацыі насельніцтвам паслуг тэлефоннай сувязі не перавышае 96,4%, паштовай сувязі – 99,3%. Павышэнне тарыфаў планавае і абумоўлена паэтапным выхадам на поўную акупнасць гэтых паслуг», – адзначылі ў МАРГ. У цяперашні час паслугі электрасувязі і паштовай сувязі з'яўляюцца сацыяльна значнымі, тарыфы на іх рэгулюе дзяржава.

Пастанова ўступае ў сілу з 15 снежня 2020 года. Раней тарыфы на паслугі тэлефоннай і паштовай сувязі павышаліся ў жніўні 2019 года.

*БелТА*

## Дзень за днём

**У Беларусі ўжо 140 палітзняволеных. Сапраўдная зіма прыйшла па календары. У гарадах краіны пачалі ставіць святочныя ёлкі. Яшчэ 6 краін і Украіна далучыліся да санкцый ЕС супраць Беларусі. Новы прэзідэнт ЗША запрасіў на сустрэчу С. Ціханоўскую. Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч адмовілася вяртацца ў Беларусь, пакуль Лукашэнка "разбурае краіну". На 8 мінут спынілася другая лінія метро. Міліцыя пачала патруляваць асобныя чыгуначныя перагоны. Створаць новы Рэспубліканскі цэнтр патрыятычнага выхавання. Сталіністы апаганілі ў Курапатах памятны камень. Прыметнік "беларускі" стаў словам 2020 года ў свеце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю па сітуацыі ў Беларусі аб непрызнанні вынікаў выбараў, заклікаў правесці міжнароднае расследванне злачынстваў рэжыму.

**ЗША.** Новы дзяржсакратар ЗША з украінскімі каранямі Э. Блінкен пацвердзіў, што будзе прытрымлівацца жорсткіх падыходаў у адносінах з Расіяй, такое ж чакае і Беларусь.

**Польшча.** Віцэ-міністр працы І. Міхалек пацвердзіла, што са снежня спрашчаюцца ўмовы для прыёму на працу беларусаў з-за складанай грамадскай-палітычнай абстаноўкі ў іх.

**Італія.** Анколагі краіны выявілі антыцелы на каранавірус у аналізах крыві, узятых у верасні 2019 года, што пацвердзіла наяўнасць яшчэ некалькіх тыпаў гэтага віруса.

**ФРГ.** Канцлер А. Меркель заклікала немцаў быць гатовымі да працяглага каранціну з-за каранавіруса як мінімум да студзеня, бо пакуль рост заражэнняў не зніжаецца.

**Швейцарыя.** Эксперты СААЗ паведамілі аб новым рэкордзе (4 млн. чалавек) заражэнняў у свеце за тыдзень каранавірусам і аб смерці за такі адрэзак 67 тысяч хворых.

**Фінляндыя.** Своечасовыя меры рэагавання на пандэмію, двухмесячны каранцін прынеслі фінам самы нізкі ў Еўропе (23 тысячы) узровень заражэнняў каранавірусам.

**Расія.** На 100 % Лукашэнка ўжо палітычны труп, як заявіў журналіст і грамадскі дзеяч М. Сванідзе, бо Пуціну стаў нецікавым чалавек, які сядзіць на штыках, яму шукаюць замену.

**Украіна.** Ноту пратэсту Мінска з-за акцый людзей ля пасольства Беларусі ў Кіеве МЗС краіны назвала "надзвычай эмацыйнай і ў цэлым беспадстаўнай", мы – за свабоду слова.

**Арменія.** Пасля 6 тыдняў вайны захопленыя Азербайджанам раёны ў Нагорным Карабаху пакінулі 90 тысяч армян, спалілі свае дамы, але шэраг уцекачоў вярнуліся ў Сцепанакерт.

**Турцыя.** Суд у сталіцы Анкары прыгаварыў адразу 337 абвінавачваемых да пажыццёвага турэмнага зняволення па справе аб удзеле ў спробе дзяржаўнага пераварoту ў 2016 годзе.

**Венгрыя.** Улады краіны абвінавацілі ФРГ у нацысцкіх поглядах з-за сатырычнага шоу, у якім высмеялі на тэлеканале ZDF венгерскага прэм'ер-міністра В. Орбана.

**Польшча.** Глава ўрада М. Моравецкі зноў прыгразіў ЕС услед за Венгрыяй накласці вета на бюджэтны пакет Еўрасаюза, праз год РП прыме рашэнне аб узвядзенні АЭС з ЗША.

**Аргентына.** Каля млн. чалавек прыйшлі да прэзідэнцкага палаца "Каса Росада" развітацца з адным з лепшых футбалістаў свету Д. Марадона, які памёр ва ўзросце 60 гадоў.

**Турцыя.** Туркі абурыліся вобшукам іх судна ваеннымі бундэсвера ў Міжземным моры, гэты карабль у ААН падазравалі ў незаконнай кантрабандзе зброі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Краіну чакае, як папярэдзіў эканаміст С. Чалы, сур'ёзны знешні ціск, мы будзем існаваць ва ўмовах адсутнасці рэсурсаў і ідэй, магчымы праблемы "мукі на 3 дні запасы".

**Магілёў.** За грамадзянскую пазіцыю звольнілі са школы маладога настаўніка матэматыкі А. Крушава, з яго спаганяюць амаль 10 тысяч рублёў за вучобу ва ўніверсітэце.

**Мінск.** Генеральны вікарый Беларускага касцёла, біскуп Ю. Касабуцкі дапусціў, што супраць яго ўлады могуць распачаць крымінальную справу, ён да рэпрэсій гатовы.

**Ліда.** Суд у закрытым рэжыме пакараў 3 гадамі "хіміі" маладога хлопца за тое, што падчас жорсткага затрымання ў цэнтры горада кінуў камень у міліцэйскую машыну.

**Барысаў.** Рассельгаснагляд увёў забарону на пастаўкі ў РФ прадукцыі мясцовага мясакамбіната № 1, іх калег з Брэста, а таксама ЗАТ "Юніміт" і ТАА "Коскро".

**Мінск.** З-за ціску ўлад пасаду прэс-сакратара Беларускай праваслаўнай царквы пакінуў пратаірэй С. Лепін, але ён застаўся свяатаром у храме і выкладчыкам

**Гродна.** Каталіцкія біскупы Беларусі ў сваім звароце заклікалі ўлады пайсці насустрач законным памкненням суграмадзян, інакш крызіс не прадвяшчае нам шчаслівай будучыні.

**Мінск.** Глава МЗС У. Макей заявіў, што Беларусь гатова спыніць усялякае супрацоўніцтва з Саветам Еўропы, асудзіў далучэнне суседняй Украіны да заходніх санкцый.

**Горкі.** Вечарам на тэрыторыі Дрыбінскага раёна 37-гадовая намесніца старшыні райвыканкама Л. Крывіцкая збіла насмерць на дарозе жанчыну-пешахода без флікераў.

**Мінск.** У 6-й гарбальніцы нелігітымны А. Лукашэнка паабяцаў калектыву, што пасля прыняцця новай Канстытуцыі больш працаваць прэзідэнтам не збіраецца.

**Салігорск.** Падчас палітычнай спрэчкі 67-гадовы вартаўнік КДБ, ваенны пенсіянер, былы палітработнік садовымі нажамі забіў 50-гадовага рабочага "Беларуськалія", сеў на 10 год.

**Пінск.** Пасля жорсткага збіцця невядомымі сілавікамі сусветна вядомы майстар па вырабе музычных інструментаў А. Шклёда з'ехаў і атрымаў прытулак у Чэхіі з сям'ёй.

**Брэст.** Міліцыя з дапамогай АМАПу жорсткім чынам са збіццём затрымала групу з 9 чалавек за блакаванне чыгункі, разбіццё шыбы ў "апорцы", вывешванне пудзілаў мянтоў.

**Магілёў.** Зварот да абласных улад аб аднаўленні на пасадзе звольненага за грамадзянскую пазіцыю дырэктара абдрамтэатра А. Новікава падпісалі адразу 86 яго калег.

**Воўчын.** У мястэчку каля Брэста біскуп А. Дзем'янка блаславіў і правёў першую імшу ў адноўленым касцёле, дзе быў ахрышчаны і пахаваны апошні кароль Рэчы Паспалітай.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Ушачы**. *Пасля рэканструкцыі коштам 2 млн. рублёў адкрыўся рух па абноўленым масце праз раку Ушача, паўгода транспарт на Глыбокае тут ездзіў у аб'езд працягласцю 15 км.*

**Орша.** ААТ "Завод ПАК" сумесна з вучонымі НАН Беларусі пачаў выпуск новых мабільных станцый абезжалезвання вады, адна з іх запрацавала ў Заслаўі.

**Наваполацк.** Паўгадзіны пракурор А. Аўсюк гутарыў з 8 студэнтамі дзяржуніверсітэта, якія запісалі відэазварот з асуджэннем насілля сілавікоў, на хлопцаў ідзе ціск у ВНУ.

**Докшыцы.** Спікер парламента У. Андрэйчанка падтрымаў на выязным прыёме жыхароў Ваўкалат, каб у іх не закрывалі стратную АЗС, як выхад адкрыццё перасоўнай запраўкі.

**Віцебск.** Цырымонію ўшанавання 90-годдзя У. Караткевіча ля яго помніка актывістамі ТБМ і прыхільнікамі класіка знялі на відэа супрацоўнікі міліцыі, улады прыйшлі асобна.

**Орша.** Да 90-годдзя з дня нараджэння ў родным горадзе Уладзіміра Караткевіча на жылым доме намалявалі вялікі партрэт класіка беларускай літаратуры.

**Глыбокае.** Кампанія МТС у сельгаспрадпрыемстве "Сельцы" запусціла пілотны праект па дыстанцыйнаму ўпраўленню фермай, там спецдатчыкі з'явіліся ў больш 120 кароў.

**Талачын.** У раёне закончылі доўгабуд – новы малочны комплекс "Зялёная" мясцовага райагрaсервіса на 1768 галоў статку з дзвюма кароўнікамі, целятнікам, блокам даення.

**Шуміліна.** Да абласных "Дажынак-2021" у райцэнтры абновяць 49 аб'ектаў, найперш цэнтральную плошчу ля райвыканкама, у гарпарку з'явіцца дзіцячы гарадок.

**Віцебск.** Раніцай у ізалятары інтэрната БНТУ памёр ад каранавіруса 22-гадовы ўраджэнец горада, студэнт Акадэміі музыкі А. Казлоў, за тыдзень зараза забрала маладое жыццё.

**Браслаў.** Ноччу трывожная група пагранзаставы "Плюсы" затрымала парушальніка граніцы, 34-гадовага грамадзяніна Латвіі без дакументаў, сёлета ўжо 19-ты выпадак.

**Верхнядзвінск.** На ўездзе ў горад ля кафэ масласырзавода "Са смакам" на 48 месяцаў для рэкламы ўстановы акрамя маладой кароўкі з'явіўся і прыгожы бычок, сімвал 2021 года.

**Паставы.** Побач з Навасёлкаўскай СШ адкрылі пры падтрымцы АБФФ і ААТ "Навасёлкі-Лучай" новую спартыўную пляцоўку з футбольным полем са штучным газонам.

Полацк. Вечарам з-за неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні на пажары ў вёсцы Скабы ва ўласным доме трагічна загінуў адзінокі 63-гадовы мужчына.

**Дуброўна.** Выпускнік СШ № 1 і СДЮШАР А. Кокша выйграў у Сербіі званне чэмпіёна свету па самба ў вагавай катэгорыі да 74 кг, у фінале ён перамог расійскага барца.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Улады Літвы заклікалі насельніцтва запасціся прадуктамі на выпадак аварыі на БелАЭС

**Насельніцтва Літвы павінна зрабіць запас прадуктаў на выпадак аварыі на БелАЭС, што знаходзіцца за 50 км ад Вільні.**

Пра гэта ў чацвер у эфіры нацыянальнага радыё LRT заявіў прадстаўнік МУС Балтыйскай Рэспублікі Міндаўгас Баярунас, піша ТАСС.

«Рэкамендуем насельніцтву стварыць запас прадуктаў першай неабходнасці на трое сутак», — сказаў ён.

У гэты рэзерв ведамства раіць уключыць кансервы, крупы, алей, цукар, ваду.

«Функцыі адказных інстанцый выразна распісаныя, але пройдзе нейкі час, пакуль яны прыйдуць на дапамогу людзям, таму ўсе павінны быць напагатове», — адзначыў Баярунас.

*ТАСС*

## У Паставах судзілі юнака за надпісы на прыпынку

**У Паставах 3 снежня адбыўся суд над Аляксеем Казлоўскім па палітычна-матываванай крымінальнай справе. Працэс над ім вяла суддзя Наталля Жукава, дзяржаўным абвінаваўцам быў пракурор Пастаўскага раёна Ігар Валынец.**

Судзілі Аляксея па артыкуле 341 Крымінальнага кодэкса (апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці) за надпіс 3% і намаляваны белчырвона-белы сцяг на дарозе і грамадскім прыпынку. Шкоду, якую нанёс Аляксей Казлоўскі дзяржаве, пастаўская жыллёва-камунальная гаспадарка ацаніла ў 25 рублей 52 капейкі. Абвінавачаны яе ўжо пагасіў. Але супраць хлопца ўсё адно завялі крымінальную справу.

Кажа пракурор Пастаўскага раёна Ігар Валынец: *– Дзеянні абвінавачанага прадыктаваныя выключна, як сведчыць з яго паказанняў, палітычнымі матывамі. Сваім учынкам ён прадэманстраваў непавагу да закону, дзяржаўных сімвалаў і, па сутнасці, грамадзянаў.*

Падтрымаць Аляксея Казлоўскага ў суд прыйшло больш за 20 чалавек, але ў залу суда ўпусцілі не ўсіх, у сувязі з пандэміяй каранавіруса.

Па словах аднаго з прысутных – Анатоля Лоўкіса, які прыехаў з Лынтупаў, яго здзівіла тое, што ўлады за такі ўчынак завялі крымінальную справу.

***– Для такой, на мой погляд, нязначнай справы, як пару надпісаў, было задзейнічана столькі людзей і столькі пераведзена паперы, проста з-за таго, што гэты хлопец выказаў вельмі распаўсюджаную думку. Усё ж такі ўсе мы жывём у грамадстве. І міліцыянты таксама. І сілавыя структуры. Яны разумеюць, якія змены ў нас ідуць. І вось за такое "шыць белымі ніткамі" – гэта проста не адпавядае ніякаму здароваму сэнсу.***

Суд над Аляксеем Казлоўскім 3 снежня доўжыўся каля трох гадзінаў з перапынкамі, але суддзя прысуд так і не агучыла. Вырак будзе аб'яўлены 7 снежня а 9.20 па беларускім часе.

Пракурор прасіў пакараць падсуднага адным месяцам арышту і спыніць вытворчасць у сувязі з добраахвотным пакрыццём выдаткаў.

*Тацяна Смоткіна*

**PS.** Як стала вядома напрыканцы падрыхтоўкі гэтага нумара – 7 снежня Аляксей Казлоўскі быў прысуджаны судом Пастаўскага раёна да 80 базавых велічынь штрафу, што складае 2160 рублёў.

*Глядзіце пачатак на стар.1*




## 26 лістапада адпусцілі з турмы Андрэя Новікава, жыхара Варапаева, актывіста кампаніі «Страна для жизни», якога ад 6 чэрвеня трымалі за кратамі

**Андрэй Новікаў, актывіст кампаніі «Страна для жизни» браў актыўны ўдзел у зборы подпісаў за вылучэнне Святланы Ціханоўскай, у тым ліку і ў Глыбокім. Перадусім, як былы паліцыянт, сачыў за парадкам, нават здаў глыбоцкай міліцыі двух правакатараў.**

Новікаў атрымаў сваю першую адміністрацыйную справу ў Беларусі за тое, што паўдзельнічаў у стрыме з Сяргеем Ціханоўскім у Варапаеве. А падчас выбарчай кампаніі дапамагаў ладзіць пікеты па зборы подпісаў за Святлану Ціханоўскую ў Паставах, Глыбокім, Варапаеве.

Быў затрыманы 6 чэрвеня, каля вёскі Новыя Кавалі Пастаўскага раёна, калі ехаў на сваім трактары. Стаўся абвінавачаны ў «арганізацыі масавых беспарадкаў» па частцы 1-й арт. 342 КК, па тым самым, што і Сяргей Ціханоўскі. То бок «быў бы артыкул, а чалавек пад яго знойдзецца!». Андрэй Новікаў знаходзіўся за кратамі ў Мінску ў СІЗа на Валадарцы.

Андрэй Новікаў нарадзіўся ў Варапаеве. У часы СССР паехаў у Расію, стаў міліцыянтам, даслужыўся да падпалкоўніка расійскай паліцыі. Служыў на Далёкім Усходзе, двойчы браў удзел у чачэнскай кампаніі. Даслужыўшы да пенсіі – вярнуўся на радзіму ў Варапаева. Жыў у вёсцы Прусы. Новікаў – грамадзянін Расіі.

Яго вывезлі па трасе М-1 на мяжу з Расіяй, з пакетам рэчаў, з тымі, з якімі і быў затрыманы летам, і з тым, чым змог разжыцца ў турме. У пашпарце паставілі штамп пра забарону ўезду ў Рэспубліку Беларусь цягам 10 гадоў. Андрэя пакінулі на мяжы. Канфіскавалі ўсе дакументы, што назапасіліся падчас следства, асабістыя запісы, нават лісты падтрымкі, паштоўкі, якія яму дасылалі ў турму неабыякавыя людзі Беларусі. Усё гэта адняла невядомая асоба, сабраўшы ўсё ў пакет. Аб гэтым ён паведаміў сам 3 снежня ў тэлеграм канале жыхароў г. Глыбокага. Усё гэта ён збіраецца прадставіць агалосцы на тэрыторыі Расіі, так як лічыць, што яго сям'я засталася ў Беларусі ў закладніках. Жонка хворая, ёй патрабуецца лячэнне, з ёй яшчэ і 1,5-гадовае дзіця.

Андрэй Новікаў падзякаваў усім тым, хто падтрымліваў яго ў СІЗа.

*Паводле СМІ.*

## Пад Глыбокім згарэў склад прадпрымальніка

**Уначы 23 лістапада адбыўся пажар на складзе прыватнага прадпрыемства, размешчанага ў Абрубе-Беразвецкім.**

У 3:52 пажарнікі атрымалі паведамленне пра загаранне складскіх памяшканняў. Калі на выклік прыехалі першыя экіпажы выратавальнікаў, дах будынка гарэў адкрытым полымем.

На момант узнікнення пажару ўсярэдзіне нікога не было, людзі не пацярпелі. Агнём у будынку, які належыць індывідуальнаму прадпрымальніку, пашкоджаны дах і маёмасць, паведамляецца прэс-службай МНС.

*ННВ.*



## Святлана Ціханоўская трапіла ў топ-50 людзей 2020 года

**Святлана Ціханоўская трапіла ў топ-50 людзей 2020 года паводле версіі Bloomberg**

***«Яна правяла чатыры месяцы ў выгнанні з тых часоў, як яе неспадзяваная кампанія ператварылася ў самы вялікі выклік за ўсю гісторыю Аляксандра Лукашэнкі»,*** — так пачынаецца раздзел, прысвечаны Святлане Ціханоўскай.

*nn.by*



## Сямашка ў шоку: Бранская вобласць сабрала бульбы больш, чым уся Беларусь

**Амбасадар Беларусі ў Расеі быў уражаны ўраджаем бульбы ў Бранскай вобласці.**

Амбасадар Беларусі ў Расеі і па сумяшчальніцтве віцэ-прэм'ер нелегітымнага ўрада Уладзімір Сямашка быў уражаны ўраджаем бульбы ў Бранскай вобласці. Пра гэта ён заявіў на сустрэчы з губернатарам расейскага рэгіёна Аляксандрам Багамазам, паведамляе прэс-служба ўрада Бранскай вобласці.

«Я хачу адзначыць, што за апошнія некалькі гадоў Бранская вобласць здзейсніла велізарны эканамічны рывок, з датацыйнай ператварылася ў самадастатковы рэгіён! Я быў уражаны, калі даведаўся, што вы сабралі 1,2 млн тон бульбы, больш, чым уся Рэспубліка Беларусь! Гэта сапраўды велізарны рывок!», - заявіў Уладзімір Сямашка падчас рабочай сустрэчы з кіраўніцтвам рэгіёна.

*Паводле прэс-службы ўрада Бранскай вобласці.*

# Сапраўдныя беларускія сімвалы: вось што трэба ведаць пра Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг

**Чырвона-зялёны сцяг — савецкі, ён быў прыдуманы ў 1951 годзе. Тады як «Пагоні» больш як 700 гадоў. А бел-чырвона-белы ўзнік на яе аснове.**

Герб «Пагоня» — ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці.


**Выява Пагоні на Статуце (канстытуцыі ВКЛ 1588 года).**

У якасці дзяржаўнага герба Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII стагоддзя.

***«Віцень нача княжыці над Літвою ізмыслі сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячаць: рыцэр збройны на кане з мячэм, ежэ ныне нарычут Пагоня»,*** – піша Густынаўскі летапіс.

Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях. У выпадку раптоўнага нападу ворагаў — вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон — усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

У часы вялікага князя Ягайлы (XIV ст.) на шчыце «Пагоні» з'явіўся шасціканцовы крыж — знак венгерскіх каралёў. Адбылося гэта пасля таго, як вялікі князь ажаніўся з Ядзвігай, польскай каралеўнай венгерскага паходжання. Знак той нагадваў здаўна вядомы нашым продкам Ярылаў крыж — сімвал бога сонца і ўрадлівасці.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожваныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў».

«Пагоня» была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў — ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу.

### Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў.

Яна трапіла на значкі расійскіх войскаў, размешчаных у Беларусі (напрыклад, Гродзенскага гусарскага), і нават на герб Расійскай імперыі.

Пячатку з «Пагоняй» меў і Кастусь Каліноўскі — кіраўнік паўстання 1863 года.

У пачатку ХХ стагоддзя класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч прысвяціў старажытнаму гербу пранікнёны патрыятычны верш:

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*

*Срэбнай збруяй далёка грымяць…*

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*

***Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!***

### Новы канон «Пагоні»

У 1918-м «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы новага часу.

Калі ў канцы 1980-х разгарнулася барацьба за незалежнасць Беларусі, «Пагоня» з'явілася каля лагатыпаў падпольных улётак і першых незалежных газет. Харугвы з ёй неслі на чале шэсцяў. З'явіліся новыя карціны па яе матывах і песні пра яе.

З аднаўленнем незалежнасці ў 1991-м «Пагоня» зноў набыла дзяржаўны статус.

Выдатныя мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі і Леў Талбузін выпрацавалі для яе новы канон. Яны надалі шасціканцоваму крыжу на шчыце выгляд крыжа Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі. На «Пагоні» прысягала беларускае войска. Яна ўпрыгожвала тэкст канстытуцыі і трыбуну, на якой прысягаў прэзідэнт.

### Рэнегаты

Аднак у 1995-м Аляксандр Лукашэнка, каб атрымаць падтрымку і грошы Расіі, узяў курс на русіфікацыю.

У атмасферы застрашвання быў абвешчаны «рэферэндум». Сярод пытанняў былі змена дзяржаўнай сімволікі і ўвядзенне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Каб матываваць гэтую змену, прапаганда карысталася беспардоннымі фальсіфікацыямі.

Рэжысёр Юрый Азаронак (цяпер яго сын працуе на СТВ) зняў фільм «Дзеці хлусні», у якім даводзіў, што «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг… фашысцкія, на той падставе, што беларусы іх выкарыстоўвалі ў часы нямецкай акупацыі. Пра тое, што «Пагоня» стагоддзямі існавала перад той вайной, фільм змоўчваў. Як і тое, што пад акупацыяй свае нацыянальныя сцягі вымушана выкарыстоўвалі ўсе: ад французаў да арміі Уласава. Якое супадзенне: Беларусь адзіная адраклася нацыянальнай сімволікі і ператварылася ў самую бедную краіну Паўночнай Еўропы, з самымі нізкімі заробкамі.


**У Глыбокім – на радзіме Клаўдзія Дуж-Душэўскага, аўтара бел-чырвона-белага сцяга. Лета 2020.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Алена і Клаўдзій Дуж-Душэўскія разам з сынам Сцяпанам, 1932 г.**

Зрэшты, па заробках беларусаў пачынаюць абганяць нават краіны Балкан, напрыклад, Румынія і Балгарыя ўжо апярэдзілі.

Адказ прапагандыстам, якія спрабуюць называць «Пагоню» і БЧБ калабаранцкімі сімваламі, добра ў свой час сфармуляваў Васіль Быкаў: ***«Калі Гітлер насіў штаны, то нам без штаноў хадзіць?»***

Немцы, шведы, украінцы, літоўцы — усе трымаюцца сваёй нацыянальнай сімволікі і будуюць нацыянальныя дзяржавы. Ва ўсёй Еўропе толькі Беларусь пагналася за халяўнымі расійскімі грашыма.

Гэта, бадай, самая ганебная пагоня ў беларуская гісторыі.

Але гістарычнае значэнне «Пагоні» такое, што сцерці яе з памяці не ўдалося. Як і бел-чырвона-белы сцяг.

### Бел-чырвона-белы сцяг

«Пагоня» сягае каранямі ў сівую даўніну, а вось нацыянальны сцяг быў кадыфікаваны адносна нядаўна.

Беларусы здаўна шанавалі спалучэнне белага і чырвонага колераў.

На карціне XVI ст. «Бітва пад Оршай» пікі ваяроў ВКЛ упрыгожваюць сцяжкі з выявай чырвонага крыжа на белым полі — крыжа святога Юр'я.

Чаргаванне белых і чырвоных палосаў можна бачыць і на сцягах каралёў Рэчы Паспалітай. У хрысціянскай сімволіцы чырвоны пас (або крыж) на белым полі сімвалізаваў кроў Хрыста.

**Аднак, бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад «Пагоні», мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 годзе Клаўдзій Дуж-Душэўскі, ураджэнец Глыбокага.**

Да яго, маладога архітэктара, студэнта Пецярбурскага горнага інстытута і актыўнага грамадскага дзеяча, з просьбай зрабіць эскіз нацыянальнага сцяга звярнуліся беларускія арганізацыі Пецярбурга.

***«Беларусы*** *[даўней]* ***лічылі сваім дзяржаўным сцягам белую Пагоню на чырвоным полі»,*** — пісаў ва ўспамінах Дуж-Душэўскі. ***Рух за незалежнасць хацеў стварыць сабе сцяг больш адрозны ад герба, як было ў іншых, дзяржаўных народаў».***

### Усім да душы

Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага Таварыства). А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх. Дзякуючы франтавікам бел-чырвона-белы сцяг і замацаваўся.

У снежні 1917 у Мінску падчас Усебеларускага з'езда, які мусіў вырашыць будучыню краіны пасля вайны, бел-чырвона-белы сцяг ужо адзінадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён усім адразу прыйшоўся да душы: светлы, зыркі і непаўторны.

Ён стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

За саветамі ж сцяг быў забаронены.

За яго выяву можна было страціць працу, а то і жыццё. Тады ж чырвоны пас на сцягу набыў новы сэнс — кроў патрыётаў, пралітая за айчыну.

Бел-чырвона-белыя сцягі ўздымаліся над калонамі людзей, якія ішлі ў Курапаты на Дзяды 1988-га — у дзень першай масавай акцыі за незалежнасць. Нацыянальным штандар быў дзяржаўным у 1991-95, на ім прысягала войска, пад ім прымаліся законы і абіраўся першы прэзідэнт краіны. Пасля, як і «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг быў прададзены за лёгкія расійскія грошы.

### Міроны

Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» — сімвалы змагання беларусаў за свабоду. З нацыянальным сцягам звязаная легендарная постаць Мірона — невядомага, які ўздымае сцягі на самых высокіх і небяспечных пунктах. «Міронам» ён падпісваўся ў цыдулках, прымацаваных да штандараў.

Парадаксальна, але ўлады таксама патроху пачыналі разумець, што гісторыю не сатрэш.

**«Пагоня» вярнулася на герб Віцебскай вобласці. Для яе знайшлі і афіцыйнае вызначэнне — «гістарычны сімвал Беларусі».**

Сцяг жа застаецца «незарэгістраванай сімволікай». 25 год некаторыя палітыкі спрабавалі ўтаптаць яго ў бруд, здымаючы, рвучы на шматкі і загадваючы высцілаць нацыянальнай святыняй падлогі аўтазакаў.

**Але падзеі 2020 года паказалі, якія сімвалы застаюцца мілыя сэрцу беларусаў, за пару тыдняў без усякага прымусу ўся краіна ўкрылася бел-чырвона-белымі сцягамі і знакамі.**

*Паводле nn.by*

# У Мёрскім раёне легкавушка выляцела ў кювет, пацярпеў кіроўца

**Раніцай 28 лістапада у ДТЗ у Мёрскім раёне пацярпеў кіроўца, які не зладзіўся з кіраваннем на слізкай дарозе.**

На 68-м кіламетры дарогі «Полацк-Мёры-Браслаў» 52-летні мужчына, які ехаў на легкавым аўтамабілі «Samand», не зладзіўся з кіраваннем і выляцеў у правы па ходзе руху кювет.



Легкавушка, якая выляцела пад адхон, перакулілася, кіроўца атрымаў траўмы. Яго прыйшлося адвезці ў лякарню, пра гэта «ННВ» паведамілі ў абласной ДАІ.

*ННВ*




Зміцер Дашкевіч

# Зміцер Дашкевіч расказаў, чым кардынальна адрозніваюцца турмы ва Усходняй і Заходняй Беларусі

**У выпуску відэапраекта «Ток» актывіст Зміцер Дашкевіч расказаў, як за гады адседак на ўласным досведзе зразумеў, што розніца паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю ўсё ж ёсць.**

«Па саміх зонах я заўважыў вельмі вялікую розніцу паміж Усходняй і Заходняй Беларуссю. Я толькі ў зоне зразумеў, што гэта такое.

Я прыехаў у Горкі, ва Усходнюю Беларусь, дзе мне са старту прыляцела: «Пі*ары, такія-сякія!» Гэтыя палкоўнікі на пену сыходзяць, пагражаюць, у ізалятары збіраюцца маёры, адваката не пускаюць, нікога не пускаюць — проста дурдом. Я калі паехаў па гэтых ізалятарах, у мяне трэслася галава.

[Жонка] Наста кажа, што тут вось не пускалі некалькі месяцаў, «вы падонкі», абражалі, маты-пераматы. Зноў жа, гэта цяпер, у сённяшнім дні, можа быць, для нас гэта нармальна, а тады гэта былі першыя выпадкі.

Мяне калі ў 2010-м судзілі без сведак, якія схаваліся ў асобным пакоі, гэта быў нонсэнс. Цяпер гэта практыка на дзясяткі тысяч.

**І мяне перакідваюць у Заходнюю Беларусь — у Глыбокае. Прыязджае мой адвакат з [жонкай] Настай. Іх адразу прымае начальнік, адвакату даюць са мной сустрэчу.**

Калі там не пускалі адваката, тут раз — пускаюць адваката, Насту запрашаюць, яна прыходзіць у кабінет начальніка. У кабінет начальніка прыходзіць і намеснік па аператыўна-рэжымнай працы, які кіруе ўсімі блатнымі, рэжымам: ён кіруе, дзе якіх зэкаў расставіць, дзе каго лбамі сутыкнуць.

**І начальнік яму кажа: «Ну што ты, Пеця, быў на споведзі ў касцёле ў нядзелю? Што, цябе не было?» Наста расказвала, што проста аб'ехала ў гэтым крэсле. Там маты-пераматы — мову проста не перадаць, — а тут чалавек кажа: «Ты быў на споведзі ў касцёле?» Я проста ашалеў!**

У Глыбокім былі людзі, якія таемна насілі мне ежу ў ізалятар. Выклікае мяне для размовы супрацоўнік, дастае ежу, бо разумее, што я там галадаю — хоць я не ведаю, што яму пагражае, можа, нават зрыў пагонаў. Я хаваю гэтую ежу ці ем на сустрэчы, іду ў камеру назад.

І мяне з Глыбокага зноў пераводзяць у Мазыр. У Мазыры сядзіць начальнік, які яшчэ тады, да Крыма, крычаў: «Мы тут руская раса, праваслаўная раса, я вас, пратэстантаў, на парог не пускаю!» Прычым меў ад Праваслаўнай царквы нейкі ордэн, пабудаваў нейкую праваслаўную капліцу ў зоне. А Мазыр называецца «Мазырская эксперыментальная калонія строгага рэжыму».

**І ён мне зноўку: «Ды вы там пі*ары, я цябе да блатных пасаджу, цябе блатныя будуць імець, калі табе спадабаліся ўсе гэтыя гульні гейскія, тут ці на волі, мы цябе ў бетон закатаем, ты нікому не патрэбны!» — ну проста… Я стаяў і маўчаў на гэтых судах, бо проста не мог паверыць, што такое можа быць. Каб 10 чалавек, перадгенеральскіх чыноў, з адной-дзвюма вышкамі вось так размаўлялі!?**

Я неяк цудам выграб з гэтага эксперыментальнага Мазыра, мне далі крытую — і вывозяць у Гродна. І на Гродна заходзіць намеснік зноў, фактычна галоўны чалавек у зоне, які кіруе самымі страшнымі блатнымі Беларусі — самыя сур'ёзныя аўтарытэты, зладзеі ў законе туды заязджаюць усе. Калі хтосьці заходзіць, зэк абавязаны сказаць сваё імя, тэрмін і колькі гадоў. Я яму кажу гэта, натуральна, па-беларуску.

**І ён мне кажа: «Якая прыгожая ў нас мова!» І я ўжо аб'язджаю каля гэтых нар: там я чую «Тут цябе будуць імець блатныя, размаўляй нармальна, я руская раса», а тут «Якая прыгожая мова». Я тады зразумеў адрозненне ў 20 гадах бальшавізму.**

20 гадоў камунізму — адно пакаленне — гэта каласальная розніца, калі сустракаешся з аўтэнтычнымі людзьмі з той мясцовасці. Вось такая была розніца, звязаная толькі з тэрытарыяльнай прыкметай».

*nn.by*

# Першыя ахвяры падлёдавай рыбалкі: на возеры Сосна правалiлiся два рыбакі, адзін патануў




**Адзін рыбак загінуў, а другога паспелі выратаваць на возеры Сосна ў Гарадоцкім раёне. Таўшчыня лёду дасягнула там толькі 2-3 сантыметры.**

2 снежня двое маладых людзей — 25- і 35-гадовы жыхары вёскі Мяжа, вырашылі адправіцца на рыбалку. Яны ўзялі драўляную лодку і рушылі на ёй па лёдзе, аднак пласкадонка перавярнулася і рыбакі праваліліся пад лёд.

Паведамленне пра няшчасце выратавальнікі атрымалі ў 12:13, да іх прыезду ў 600 метрах ад берага знаходзіўся толькі адзін чалавек, другога рыбака і лодкі ўжо не было відаць на паверхні.

Ратавалі пакінутага на плаву хлопца супрацоўнікі МНС і мясцовыя жыхары, да яго атрымалася падплысці мясцоваму жыхару на сваёй лодцы і аднаму з выратавальнікаў на выратавальнай дошцы.

У выніку малодшага з рыбакоў даставілі на бераг і перадалі медыкам «хуткай», ён шпіталяваны з агульным пераахаладжэннем.

Цела другога рыбака вынялі з-пад лёду. Глыбіня возера ў месцы яго выяўлення дасягала 5 метраў, а таўшчыня лёду склала ўсяго 2-3 сантыметры, паведамляецца прэсслужбай МНС.

*Зоя Машэка*

# Адмыслоўцы пералічылі прадукты, якія блакуюць каранавірус

**Спіс склалі супрацоўнікі ўніверсітэта Паўночнай Караліны (ЗША).**

Навукоўцы з Універсітэта Паўночнай Караліны (ЗША) пералічылі прадукты, якія блакуюць каранавірус. Вынікі свайго даследавання яны апублікавалі ў выданні Frontiers in Plant Science.



Па дадзеных даследчыкаў, хімічныя злучэнні ў вінаградзе і зялёным чаі найбольш паспяхова перашкаджаюць распаўсюду віруса ў арганізме чалавека. Адмыслоўцы распавялі, што ў дадзеных прадуктах утрымоўваюцца рэчывы, якія здольныя блакаваць ферменты-пратэазы SARS-CoV-2. Апроч гэтага, навукоўцы высветлілі, што цёмны шакалад і какава таксама могуць змяншаць актыўнасць ферментаў каранавіруса.

Раней група навукоўцаў з Інстытута вірусалогіі Універсітэцкай клінікі Эсэна (Нямеччына) вызначыла, што чаі на аснове шалвеі і перылы дапамагаюць змагацца з каранавірусам. Даследчыкі прыйшлі да высновы, што нават кароткачасовага прыняцця перылы і шалвеі дастаткова для значнага прыпынення ўзнаўлення віруса.

*lenta.ru*

# Мінлясгас расказаў аб сярэднім кошце навагодніх дрэў у гэтым годзе

**Міністэрства лясной гаспадаркі расказала аб сярэднім кошце навагодніх дрэў у гэтым годзе, паведамляе БЕЛТА са спасылкай на Telegram-канал ведамства.**

«Сярэдні кошт навагодняга дрэва на гандлёвых базарах і складах лясгасаў складзе: вышынёй да 1 м - Br10, ад 1 м да 2 м - Br12, ад 2 м да 3 м - Br17. На складах лясніцтваў дрэвы будуць каштаваць традыцыйна танней: Br7, Br9 і Br13 адпаведна, - расказалі ў прэсслужбе. - Дарэчы, выгадней за ўсё навагодні атрыбут купляць у Брэсцкай вобласці: дрэўцы да метра тут будуць каштаваць усяго Br6,9. А вось самыя высокія цэны - традыцыйна ў Мінску і Мінскай вобласці: Br12,2 за елачку да метра».

Цэны на навагоднія дрэвы ў кадушках пакуль фарміруюцца. Мінлясгас абяцае расказаць аб іх дадаткова. «Кадушкі ў гэтым годзе будуць прадаваць ва ўсіх населеных пунктах з колькасцю насельніцтва звыш 30 тыс. чалавек», - нагадалі ў ведамстве.

«Звяртаем увагу: гэтыя цэны дзейнічаюць толькі ў нашых кропках (яны ёсць у кожным горадзе і раёне). Індывідуальныя прадпрымальнікі ўстанаўліваюць цэны паводле свайго меркавання», - падкрэслілі ў міністэрстве.

*БелТА*

